**А. Р. ЛУКАШЭНКА: «ПІФ-ПАФ! ОЙ-ОЙ-ОЙ! ПАМІРАЕ «ЗАЙЧЫК» МОЙ!**

# НАВІНКІ

30 лістапада - 10 сьнежня 2000 №15(37) Кошт свабодны

**Рашэньні МВФ у жыцьцё!**
Сацыяльныя навінкі
на *стар. 3*

*Адстаўка «сілавікоў»: дзе лёгіка?*
Стар.2

Старык Вальдэмарыч або 1000 і 1 ноч Прэзыдэнта
(гіпэрбалічная казка на стар.4-5)

Па старонках **Православной Белоруссии**
«З ДУМКАЙ ПРА БУДУЧЫНЮ!»
НА СТАР. 8



# Жыцьцё жукоў

*Усе нядаўнія кадравыя калізіі – не капрыз аднаго чалавека, а глыбокая заалягічная заканамернасьць, уласьцівая мікрафаўне.*

Практыку адстаўкі «сілавікоў» і міністраў культуры беларусы перанялі ў спадчыну ад высокаразьвітых прыматаў з культуры няправільнага прыкусу. Антрапоіды ў сваю чаргу захавалі ў генах храмасом адстаўкі ад папярэднікаў у эвалюцыйнай герархіі – амфібіяў, мастадонтаў, карлікавых вамбатаў і іншых хордавых. Нажаль гэтыя мілыя пачвары беспаваротна ўнесеныя ў Чыровоную Кнігу Памяці (пасьмертна). Таму мэханізмы іх паводзінавых стэрэатыпаў трэба шукаць не ў мадэрновых цеплакроўных пазваночных, а ў тых, хто, нягледзячы на эвалюцыйныя рэпрэсіі, і празь мільёны сьветлавых гадоў захаваў свой самабытны мэнталітэт. Размова ідзе пра клясу вышэйшых членістаногіх і іх прадстаўнікоў: навозных жукоў, молі і бібліятэчных клапоў. Іх экзыстэнцыяльныя паводзіны і адаптацыйную стратэгію сыстэматызаваў і апісаў выбітны дзеяч ангольска-эўрапейскай энтамалёгіі і эталёгіі Кузэн Бэнэдыкт у сваёй манаграфіі *Etude comparative des rites de passage chez le morpion et la mandawoszka eurasienne*, Т. 3 (Grenoble, 1893). Правёўшы два гады сам-насам зь непрадказальнымі дзікімі інсэктамі лясоў Слонімшчыны, дасьледчык расказвае:

«Аднойчы глыбокай восеньню мне і майму праваднiку палясоўшчыку Вінцуку давялося бачыць найцікавейшую зьяву. Прасядзеўшы ноч унутры маладога гнойнага кургана, пад раніцу нам удалося падманіць матку жучынай калёніі. Ад іншых жукоў яе адрозьнівалі бліскучы чырвона-зялёны панцыр і пышныя вусікі. Каралева была пастаянна абкружаная вывадкам байцовых трутняў (моцных махнатых пачварак зьлёгку бураватай афарбоўкі, якіх мясцовыя жыхары чамусьці называюць “сілавікамі” або “геркулесамі”) і дэкаратыўных (выглядам падобных да тых, якіх я бачыў у нямецкай частцы Паўднёвай Радэзіі). Звычайна лічыцца, што адзіная функцыя трутня ў сям’і гнойных жукоў – апладненьне маткі. Ад доўгага спароўваньня з маткай, сустрэча зь якой адбываецца пры поўзаньні на вялікай хуткасьці, самец часьцей за ўсё гіне. Увосені матка выганяе апошніх ацалеўшых з кучы, і яны таксама гінуць. У сям’і, дзе гнойныя жукі самі выявілі, што іх матку трэба замяняць, трутні застаюцца на зіму, каб забясьпечыць стабільнасьць герархіі ў жучынай грамадзе. Але выпадак нашай маткі быў даволі нетыповым, што пацьвердзілі яе складаныя ўзаемаадносіны з жукамі супрацьлеглага полу.

**Прычына некампэтэнтнасьці беларускіх незалежных аналітыкаў крыецца ў няведаньні школьнага курсу заалёгіі. Во!**

Рэзультаты ніжэй прыведзенага назіраньня ўшчэнт разьбіваюць рэакцыйную пазытывісцкую тэорыю Ван Клухтэльбэрга. Байцовыя трутні забясьпечвалі парадак пры разьмеркаваньні сьвежага конскага памёту, а таксама сачылі, каб матку не патапталі трутні-ізгоі. Апошняя фракцыя самцоў магла разьлічваць на ўдзел у шлюбных гульнях толькі ў выпадку вылупленьня лялькі новай каралевы і сьмерці старой. Такім чынам, умовай выжываньня апошняй было паяданьне сваіх жаночых адкладаў, а менавіта лічынак-кандыдатаў на яе прывеліяваны інсэктавы статус. Вінцук асьцярожна адлавіў «дзетазабойцу» і я зрабіў ёй мазок Эльдмаха. Палявы лябараторны аналіз паказаў, што матка ўжо была не маладзіцай і напэўна пакутавала ад некаторых расстройстваў лібіда, дзіўным чынам аналягічных клімаксу ў прыматаў. Дзеля падтрыманьня актыўнай сэкрэцыі палавых залозаў яна ўвесь час практыкавала ракіроўкі «каханкаў» з свайго сілавога атачэньня. Такая полавая пульсацыя выклікала ў лідэркі сетчатакрылай паталягічнае задавальненьне, і адначасова дэманстравала сямейству, што іх жужаліца захавала здаровы лідэрскі інстынкт.

На наступны дзень мы вырашылі назіраць гэты працэс бліжэй. Вываляўшыся ў прыдарожным кале, мы асьцярожна падпаўзьлі да гнойнага тэрмітніку. На нашых вачах адбывадася ратацыя адной партыі трутняў-«геркулесаў». Вусатая матка кусала былых каханкаў заднімі сківіцамі, быццам абвінавачваючы іх у нейкіх заганных дзеяньнях, а «адстаўнікі» пакорна адыходзілі і закопваліся ў фэкаліі, каб не трапляцца каралеве на вочы. Новыя трутні займалі вызваленыя вакансіі.

Нажаль, дзяціна Вінцук напярэдадні моцна напіўся і вёў сябе ў гнойніку як шампанская сьвіньня. Ён раптам заснуў, а потым, пераварочваючыся на бок, задушыў самку і ўвесь яе «кабінэт». Разьюшаны жучыны рой кінуўся бегчы на нас. Прыйшлося хутка рэціявацца. Мала таго, што навуковы экспэрымэнт быў правалены, на шляху да старожкі Вінцук зламаў мне мікраскоп. Ну што можна на гэта сказаць? Барбарская краіна, дзе ўсе – і людзі, і жывелы – барбары».

Гэты фрагмэнт з кнігі славутага вучонага найлепей сьведчыць, што нашым палітычным аглядальнікам пры аналізе ўладных працэдураў трэба шырэй выкарыстоўваць дасягненьні прыродазнаўства, а не ўбаюківаць сябе і публіку псэўданавуковай мэтафізыкай.




Кібэр-Біблія
на стар.7

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 30.11.2000г., а 01.01. Тыраж 5600 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ №922

## БрутАл

### 25 гадоў бяз Франка.

**Дата сьмерці гішпанскага дыктатара была шырока адзначаная дэмакратычнымі і левымі сіламі Пірэнэяў. Не абыйшлося без сутычак зь ягонымі фэнамі, якія патрабавалі забараніць аборты і дэмакратыю. Сьвята скончылася ўрачыстым афарбаваньнем бюсту каўдыльё Франка ў ружовы колер.**

### Пратэсты ў Дэлі.

**20 лістапада тысячы разьюшаных індустрыяльных рабочых, руйнуючы і спальваючы ўсё на сваім шляху, рухаліся да Дому Ураду. Гэтак яны пратэставалі супраць дзяржаўных плянаў зачыніць бруданосныя фабрыкі ў жылых раёнах сталіцы. За «чыстае паветра» пралетарам прыйдзецца заплаціць сваімі працоўнымі месцамі.**

### Змаганьне за трубу.

**22 лістапада ў чарговы раз быў зачынены нафтаправод Калумбіі. Ён не папрацаваў і 10 гадзін пасьля апошняй дывэрсіі групоўкі левых герыльерас, якія выступаюць супраць прысутнасьці іншаземнага капіталу ў нафтавым сэктары Калумбіі. За гэты год гэта ўжо 89-ая атака.**

### Страйк-карнавал.

**23 лістапада ў Аргентыне пачаўся нацыянальны страйк супраць «амалажальных» эканамічных рэформаў прэзыдэнта Ф.Ля-Руа, МВФ і Сусьветнага Банку (зьніжэньне сацыяльных выплат, стрымліваньне заробкаў бюджэтнікаў). У першы дзень стачкі народнае гуляньне з фэервэркамі і антыўрадавымі лёзунгамі, танчачы «ча-ча-ча», заблякавала вуліцы і плошчы сталіцы. Паліцыя ня ўмешваецца.**

### Атака супраць «нац-дэмаў».

**25 лістапада ў Бэрліне прайшла акцыя «нацыянал-дэмакратаў» супраць забароны іх партыі. Акцыю ахоўвалі ад магчымых нападкаў антыфашыстаў каля 4 тыс. паліцыянтаў. Аднак усё ж такі антыфа прарвалі шчыльныя шэрагі аховы і атакавалі «дэмакратычных» нацы. У адказ паліцыянты замачылі левакоў з дапамогай вадамётаў.**

# Культурная Зачыстка

*Кадравыя перастаноўкі ў сілавых ведамствах выклікалі шэраг крыватолкаў. Між тым, прычына гэтаму іншая.*




Апошняя ракіроўка ў вышэйшых эшалёнах улады выклікала цэлы вал перасудаў у афіцыйнай і незалежнай прэсе. Ня жарт: прэзыдэнт пахерыў усіх сваіх сілавікоў, пакінуўшы апазыцыйных аналітыкаў у лёгкім стрэсе. «Хто б мог падумаць?! Ладна Мацкевіч, але Шэйман – першы корыш Прэзыдэнта! Што робіцца-а-а...» Аказалася, што гэтыя «аналітыкі» такія ж аналітыкі, як мы – клоўны. Спрабуючы прыкрыць сваю некампэтэнтнасьць у прэзыдэнцкай кузьніцы кадраў, яны спрабуюць вынайсьці нейкі лягарытм лёгікі Лукашэнкі. І зноў травяць байкі пра нейкія там «чысткі» і «змовы». Хопіць кідаць пыл у народныя вочы, шаноўнае спадарства!
Ключ да разгадкі хаваецца пад самым носам у незалежных шаўкапёраў. За гучнымі прозьвішчамі монстраў з СБ і КДБ ніхто не зьвярнуў увагі на яшчэ адну адстаўку: паляцела галава міністра культуры Сасноўскага. Менавіта з-за ягонай безалабернай культурнай палітыкі Беларусь правaліла ўсе ўрадавыя праграмы па падвышэньні маральнасьці беларускіх грамадзянаў, лякмусавай паперкай чаго стаўся нядаўна мінулы фэстываль «Лістапад». Калі некаму падаецца, што фарс безгустоўнасьці і разбэшчанасьці – гэта дробязь, хай першым скіне 100 баксаў па афіцыйным курсе Нацбанку! Крызыс у сфэры культуры й адукацыі фактычна зьвёў на нуль усе прэзыдэнцкія намаганьні па вываду краіны з эканамічнага балота. Пакідаць на сваёй пасадзе Сасноўскага, чалавека, які дзейнічаў фактычна на руку дзеячам дэструктыўных антынародных сілаў, Прэзыдэнт ня меў маральнага права. А сілавікі – гэта так, для маскіроўкі ●

**Сяргей Міхалкоў**

# Ня будзьце асламі!

*Беларуская «дэмакратычная апазыцыя» ў новай палітычнай сытуацыі ў сьвеце*

Ні для каго не сакрэт, што шматтыднёвая амэрыканская асьліная вазьня вакол выбараў чарговага прэзыдэнта ЗША паўплывае й на ўнутрыпалітычныя расклады ў Беларусі. І калі прэзыдэнт Беларусі задаволена пацірае рукі, дэманструючы ўсяму сьвету перавагі беларускага канстытуцыйнага ладу ўзору 1996 году, у стане апазыцыі пачаліся разброд і хістаньні. Паводле апошніх вынікаў фальцаваньня галасоў флорыдзкіх выбаршчыкаў, становіцца ясна: перамагае рэспубліканец Джордж Буш-малодшы. А цяпер уявіце, якім зьнясіленым ён выйдзе з прэзыдэнцкай гонкі. Буш яшчэ доўга ня зможа нармальна ўспрымаць прозьвішча Гор, а ўзгадка пра дэмакратаў і зараз выклікае ў заўтрашняга гаспадара Авальнай Залі пачуцьцё ванітаў.




Вось тут і пачынаецца гемарой для нашай дэмапазыцыі. Адпавядаць міжнароднай кан'юнктуры – галоўная якасьць любога палітыка. Той факт, што ў ЗША прэзыдэнтам ня сёньня-заўтра стане праціўнік дэмакратаў, уносіць сур'ёзныя карэктывы ў стратэгію беларускіх «дэмакратычных сілаў». Згадзіцеся, не хацелася б згубіць цэнтральнага грантадаўца акурат напярэдадні ўласных прэзыдэнцкіх выбараў.
Выйсьце ж напрошваецца само сабой. Трэба тэрмінова выкінуць крамольнае слова «дэмакратычны» з усіх апазыцыйных рэклямных праспэктаў і прамоваў актывістаў антылукашэнкаўскага супраціву і хутка замяніць яго на моднае «рэспубліка»: «рэспубліканскія каштоўнасьці», «рэспубліканскі рух», «Каардынацыйная Рада Рэспубліканскіх Сілаў», «адзіны рэспубліканскі кандыдат» і г.д. Варта не тармазіць і партыйным дзеячам, якія жадаюць большай увагі да ўласнай пэрсоны з боку новай адміністрацыі Белага Дому. Так што неўзабаве можна чакаць зьяўленьня Сацыял-Рэспубліканскай Грамады і Хрысьціянска-Рэспубліканскай партыі. Чаго ня зробіш дзеля перамогі дэ..., прабачце, рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь ●

**Валянцін Белазор**

## СкандАлы

### Кароль выключаны. Жыве Кароль?

**На мінулым тыдні беларускую апазыцыю трэсьлі разборкі ў стане сацыял-дэмакратаў. Бугор сацыял-дэмакратыі Мікола Статкевіч выключыў з партыі свайго намесьніка Аляксея Караля. У адказ БСДП (НГ) папёрлі з Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў. Увесь шухер закруціўся вакол двух непанятак: чаму Статкевіч удзельнічаў у выбарах і за чые бабкі Кароль ганяў па Эўропах?**

Сутнасьць гэтых разборак відавочная. Сацыял-дэмакраты памнажаюцца дзяленьнем, і ў партыі Статкевіча наступіў чарговы вэгетатыўны пэрыяд. Хутка на палітычным небасхіле зьявіцца новая зорка – Каралеўская Сацыял-Дэмакратычная Партыя. Ёй гарантаваны посьпех раялісцкага электарату, а таксама моцны прыток фінансаваньня ад брытанскай кароны. З пункту гледжаньня простага чалавека, падзеі носяць вельмі станоўчы характар.
Зьяўленьне кожнай новай сацыял-дэмакратычнай партыі (а КСДП будзе ўжо чацьвертай) азначае новую хвалю фінансаваньня з Захаду. А чым больш у краіне бабак, тым лепш будзе кожнаму грамадзяніну. Такім чынам, сацыял-дэмакраты выйдуць на першае месца па забесьпячэньні прытоку замежных інвэстыцыяў.

### Адзіны не адзін

**Аб'яднаная апазыцыя клялася й бажылася выставіць на выбары адзінага кандыдата. Аднак рознагалосьсі ў КРДС, відаць, паставяць на «адзіным» крыж.**

Выключэньне з КРДС сацыял-дэмакратаў азначыла сабой раскол у стане «аб'яднаных». Але спрадзяваецца на тое, што кандыдатаў ад апазыцыі будзе толькі два – глупа. Ужо напрыканцы гэтага тыдня, паводле нашых зьвестак, іх было восем. Хутчэй за ўсё, «адзіных кандыдатаў» будзе столькі ж колькі й дзяцей лейтэнанта Шміта.
Не тармазіце, высуньце й вы свайго «адзінага й дэмакратычнага кандыдата. Свае прапановы можаце дасылаць у непразрыстым канвэрце на адрас рэдакцыі.

# Як стаць японцам

*Пару бясплатных парадаў, як махнуць за мяжу на ПМЖ*

Якіх толькі фокусаў не адкалываюць суайчыньнікі, каб атрымаць грамадзянства капіталістычных краінаў: бяруць у жонкі гарбатых уродзін або ідуць замуж за хранічных імпатэнтаў, дабраахвотна адпільваюць скрайнюю плоць, каб выглядзець 100% сэмітам, запісваюцца ў геі і ваярісты (вычварэнцы, але таксама маюць ільготы на азыль). Гэтыя радыкальныя садамазахісцкія мэтады прарыву ў буржуазны вырай адыходзяць у мінуўшчыну. 24.11.00 у папулярнай сярод патрыятычнага кантынгенту радыё-праграме "Размова па сутнасьці" прафэсар Валянцін Акулаў адкрыў сакрэт, як можна стаць японцам нават не выходзячы з кватэры. Распрагаючыся пра энэргетычны крызыс у расейскім Прыморскім краі, акадэмік аўтарытэтна давёў, што Чубайс наўмысна вырубіў жыхарам рэгіёну ваду, газ і электрычнасьць. Без камунальных паслугаў расейскі чалавек паступова забывае, што ён «русский», і на вачах ператвараецца ў японца. Акулаў – прафэсар, яму можна верыць. Такім чынам, калі вы вырашылі цьверда зваліць за кардон, проста вырубайце ваду, электрычнасьць і спакойна чакайце. Хутка вугалкі вашых вачэй зьліпнуцца, кожа пажаўцее, быццам вы хворы гепатытам Б, а з люстэрка на вас будзе глядзець сапраўдны Сёгун. Не палохайцеся – гэта Вы. Адмыецеся ўжо на новай Радзіме. І не забудзьце чыркануць ліст падзякі Акулаву! ●

**Нахіра Мнетахата**


1 Стадыя. Адключэньне цяпла.


2 Стадыя. Адключэньне вады.


3 Стадыя. Адключэньне электрычнасьці

*21 лістапада ў Менск наведалася місіянэры МВФ. І ўсе газэты наперабой спрачацца між сабой за права быць любімымі вучнямі замежных арханёлаў Рынку. І мы таксама пачулі Сьвятое Слова нэалібэралізму.*

# Сацыяльныя Навінкі




## Формула абсалютнай занятасьці вынайдзена, дзякуючы сп.Пазьняку

***«...Шматлікія старыкі і старушкі губляюцца ў казённых установах, страчваюць індывідуальнасьць», – піша* Во славу Родны.**

Статыстыка сьведчыць: 30% беларускай моладзі маецца ад структурнага беспрацоўя, забясьпечваючы брыгады «шасьцёркамі», а заходніх кулакоўфэрмэраў – гастарбайтэрамі, гатовых за даляр перапалоць усю панскую кукурузу. Рэцэпт выратаваньня краіны ад хваробы Бог адкрыў толькі аднаму чалавеку – А.Г.Пазьняку, старшыне Камітэту па справах моладзі.

Пачнем з таго, што галоўная прычына гультайства закладзеная ў псыхалягічнай канстытуцыі «гома сапіенса». Людзі табуняцца на біржах працы не таму, што краіну казыча эканамічны гемарой, і не таму, што за працу башляюць як кот наклаў. Асноўны фактар беспрацоўя ў тым, што асобе ў падлу працаваць па сваёй прафэсіі, якая яму не падабаецца. Пакладзі яму хоць лімон баксаў акладу, ён нават мізінцам не пачухаецца. Адсюль і пандэмія беспрацоўя, якая точыць, як тля, саван соцыюму. Сытуацыя была б кардынальна іншай, калі б мэн займаўся працай, што адпавядае ягоным «пэрсанальна-біялягічным задаткам».

Пазьнякоўскае адкрыцьцё рэбусу беспрацоўя адчыняе сьветлы шлях да грамадзтва, якое ня будзе ведаць біржаў працы. У газэце *Семь дней* ён выклаў свой плян, у аснове якога – прафарыентацыя сaплякоў.

На практыцы гэта будзе выглядаць наступным чынам: недзе ў 14-15 гадкоў усіх тынэйджэраў будуць зганяць у Цэнтры прафарыентацыі, дзе выдадуць блянкі тэсту. Паводле ягоных вынікаў кожны вызначыць сваё месца ў грамадзтве. Вядома ж, выбар падлеткаў будзе цалкам адпавядаць рэпрадукцыі нашай сацыяльнай структуры: 80% дзетак набяруць колькасьць пунктаў, якая адпавядае рабочым і калгасьнікам, 19,9% – чыноўнікам і бізнэсмэнам, і 0,0001% можна будзе прызначаць Прэзыдэнтам або кіраўніком Камітэту па справах моладзі. Гэта й будзе канчатковы выбар. Як падкрэсьлівае Пазьняк, ***«калі ты марафонец, не падыходзь да штангі, нават калі яна табе падабаецца»*** ●

**Зянон Станіслававіч Лукашэнка**

## «Выйсьці з стойла!» – вось запавет Беларусі без утрыманства і паразытызму.

Нядаўняе адкрыцьцё Ўправы адраснай дапамогі і гендэрных праблемаў пры Міністэрстве сацыяльнай абароны адкаркавала новую веху ў гісторыі беларускай сацыяльнай палітыкі. Як сьведчыць сама назва аддзелу, нарэшце альфай і амэгай клопату Дзяржавы становіцца не абстрактная «сацыяльная катэгорыя», а канкрэтная чалавечая адзінка – вянец стварэньня і фокус сьветабудовы. «Грамадзтва няма – існуюць толькі індывіды», – казаў у свой час нэалібэральны волатпясьняр Фрыдрых фон Хаек, які і натхніў беларускіх саноўнікаў на ўвод прынцыпу «адраснасьці». Такія атавізмы камуністычнай ураўнілаўкі, як успамогі па беспрацоўі і цяжарнасьці, пэнсіі, усеагульныя адукацыя і ахова здароўя, нарэшце, толькі нявечаць крухкія грані індывідуальнасьці.

Працытуем для прыкладу набліжаную да ўраду газэту *Во славу Родины* (№220 ад 21.11.2000): ***«Сацыяльныя работнікі даўно адзначылі, што шматлікія старыкі і старушкі губляюцца ў казённых установах, страчваюць індывідуальнасьць».*** Немагчыма не пагадзіцца з мужным журналістам-герантолягам М.Скрыпінскім. Колькі ўнікальных асобаў, талентаў, самародкаў было кінута ў злавонную ляпу ненажэрнага Малоха, імя якому – Сыстэма сацыяльнага забесьпячэньня! Дакладна, у ягоных вантробах пераварыліся ў бязьлікую біямасу сотні, тысячы, мільёны нерэалізаваных Моцартаў, Гейтсаў, Барбараў Радзівіл... Што мы маем замест іх? Шэры легіён безыніцыятыўных утрыманцаў, здольных толькі нахабна патрабаваць, браць і «жэрці».

Але, дзякуючы намаганьням ураду і трыюмфальнаму шэсьцю нашага грамадзтва ў Рынак, людзі пачынаюць прачынацца пасьля 70-гадовага летаргічнага сну. Усё больш учорашніх паразытаў знаходзяць у сабе сілы сказаць «НЕ!!!» зьневажаючым асобу рамкам пад псэўданімам «сацыяльныя гарантыі». На нашых вачах атрымалі новы штуршок шматлікія арыгінальныя субкультуры, у якіх чалавечая асоба, нарэшце, можа адчуць сваю незалежнасьць і непаўторнасьць: калярытныя бамжы, вытанчаныя калекцыянэры кардону, камунікабэльныя зьбіральнікі творчасьці айчынных шкладуваў... Паўсюль квітнеюць крэатыўнасьць і індывідуальная ініцыятыва.

А таму быдлу, якое і надалей плянуе сядзець, зьвесіўшы ногі, на карку Падаткаплацельшчыка, згодна заклікам Скрыпінскага, Сума Аўтаномных Самабытных Індывідаў (скар. С.А.С.І.) паставіць надзейны заслон: ***«Выратавальны мякіш атрымае толькі той, у каго страўнік да пазваночніку прыліп».***

Так што аматарам халявы прыйдзецца прайсьці не адну мэдкамісію (дарэчы, небясплатную), перад тым як атрымаць купон на права прашэньня аб пастаноўцы ў чаргу на адрасную дозу абястлушчанага булёну ў наступным квартале ●

**Яраслаў Раманчук**

## Новы парадак паступленьня ў ВНУ заб'е асінавы кол у машонку акадэмічнай мафіі

Прыкладна ў 1986 годзе Гарбачоў накрэмзаў тэкст славутага антыалькагольнага Ўказу. На поўным гарэлачным бязрыб'і моладзь ад зялёнай нуды пацягнулася на сенавалы. У выніку ў краіне быў зафіксаваны дэмаграфічны выбух, ахвярам якога ў наступным годзе праб'е недзе 17 гадкоў. Час сунуцца ў ВНУ. Звычайна, сябрам прыёмных камісіяў штогод бамбяць мазгі 60000 абітурыентаў, а тут – дзякуй аўтару кнігі *Перабудова. Новае мысьленьне* – чакаецца аж 90000 ламаносавых!

Уяўляеце, які гешэфт зробіць акадэмічная прафэсура на хабарах падчас уступных іспытаў! Забудзьце пра ангельскі факультэт «ін'язу»! У ПТВ №52 на завочнае аддзяленьне «швачка-матарыстка» (група платнікаў) прыстроіць роднага аксэлерата будзе не па кішэні беларусу з дастаткам.

Што рабіць, каб паставіць надзейны заслон карупцыі? Як паказаў горкі досьвед мінулых гадоў, цягацца з карупцыяй у ВНУ бэссэнсоўна. Спрабавалі яе грамадзкімі камісіямі – не бярэ. Труцілі БПСМам – хоць бы хны. Думалі Прэзыдэнцкім дэкрэтам прышчучыць – аніякага эфэкту! Аднак ня варта апускаць граблюкі. Трэба прыслухацца да голасу глузду Эдварда Ахрэма, які ў *Рэспубліцы* (21.11.2000г.) прапануе з наступнага году скасаваць іспыты ў ВНУ і ўвесьці ліміт студэнтаў для кожнай вобласьці. ***«Тады атрымліваецца так: Віцебская вобласьць мае ва ўнівэрсытэце ліміт 100 чалавек. Яна адпраўляе іх туды вучыцца. Адбор – на аснове школьных атэстатаў, якія дасылаюцца ў абласное АНА. І непатрэбна аніякіх экзамэнаў».***




***Такія вось сцэны на ўступных экзамэнах адыйдуць у нябыт, дзякуючы меркаваным рэформам***

Гэтая геніяльная эўрыка, практычная рэалізацыя якой не пакіне ад прафэсарскай карупцыі нават мокрага сьледу. Ня трэба болей ехаць у сталіцу, падкаравульваць дацэнта і суваць на лапу капэрту зь «зялёнкай». Галоўнае цяпер – выгнаць чырвоны атэстат і залаты мэдаль. Гэта можна зрабіць куды дэмакратычней. Напрыклад, у тваёй анцілопы бзік – булдырыць, як Алсу, а ўсю карцінку ў школьным табэлі псуе траяк па сьпевах. Бярэш бутэльку магарыча і йдзеш у суседні пад'езд да настаўніка сьпеваў. Апэтыты ў пэдагога з зацюканай школы ў Клімавічах куды больш сьціплыя. За паўлітры ён цябе й пяцёрку выправіць і, калі трэба, напіша рэкамэндацыю, што твая Нюрка (ад нараджэньня заіка) бярэ ноту «ля» чыста, як Мансэрат Кабальe. Бацькам – атэстат, настаўніку – нейкая капейка.

І дзяржава, дарэчы, ня ў дурнях. Адкрыйце газэты: дэмакратычныя траглядыты зьбіраюцца ўзьняць настаўнікаў, пакрыўджаных лёсам і бюджэтам, на бузу. А цяпер, калі ў Лабановіча будзе такая магчымасьць падкалыміць, ён (Лабановіч) яшчэ раскіне тудысюды ізьвілінай: ці йсьці яму за вячоркамі. А галоўнае – карупцыі будзе поўны канец ●

**Эдвард Радзінскі**

## Эўрыка

### І ваўкі цэлыя, і авечкі сытыя.

«Купляйце беларускае!» – какетліва запрашае грамадзянаў агрэсіўны штрыхкод уздоўж аўтабанаў. Але спажывец не сьпяшаецца набіваць халадзільнік напоем «Журавінка» ды соевым малаком, гараж – БелАЗамі, а шафу – дэрмантынавымі пінжакамі Берасьцейскага панчошнага камбінату. Прычыну нерэцэптыўнасьці беларусаў да рэклямных заклікаў адкрыў эканамічны аглядальнік усё той жа *Во славу Родины* Юры Казачэнка. Згодна ягонаму эканамічнаму закону, попыт на беларускія тавары проста прапарцыйны коштам на энэрганосьбіты для насельніцтва. Чым болей які-небудзь фрэзэроўшчык Антось Язэпавіч Хадыка раскішэніцца на кілават, тым больш цэвіты і аліўе з рапсу ўпрыгожыць ягоны навагодні стол. Бо энэргетычныя кошты па выробу высокавітамінізаванага парашку будуць перакладзеныя з фабрыкі «Крыніца» на сп. Хадыку. ***«Гэтым,*** – як лягічна даказвае сп. Казачэнка, – ***забіваюць адразу двух «зайцоў». Па-першае, у эканоміі электрычнасьці аказваецца зацікаўлены асноўны яе спажывец, па-другое, становіцца больш танным кошт тавараў».***

Да спажывецкага Эдэму засталося ўсяго нічога. Казачэнка абяцае: ***«Ужо ў наступным годзе насельніцтва будзе цалкам кампэнсоўваць затраты за выкарыстаную электраэнэргію і палову – за цяпло, а праз год і далей – усе сто працэнтаў».***

Такім чынам, у ванну лазіць будзем па сьвятах, чытаць будзем толькі ўдзень. Затое дагэтуль недаступнымі «Цэвітай» і «Дарыдой» зможам нават абліваца (у інтымным паўзмроку). А пагрэцца і ў краму можна схадзіць.

## Учымся радному языку

# Пра нутрый

**Мінулі часы нацыянальнага нігілізму, калі мы саромеліся размаўляць па-сваему, па-просту. Надыйшоў момант зьвярнуцца да сваіх каранёў. Рубрыка «Учымся радному языку» закліканая запоўніць прабел, што існуе ў маладога пакаленьня ў ведах сваёй сапраўды роднай мовы, якую нацыяналісты ўсіх масьцяў грэбліва называюць «трасянкай», «сапсаванай беларускай мовай», ці «іспорчаным рускім языком». Не пакідайця ж языку нашага...**

– **Д**а, жысьць січас цяжолая і адзежда дарагая. А я вам так, жэншчына, скажу: сам аб сябе не пабеспакоісься, ніхто аб табе не пабеспакоіцца! Я от сама сібя адзяваю: нутрый гадавала, а патом зь іх шубу пашыла. Ну і жаруць жа эці нутрыі! Я іх інагда дажэ мясам карміла, добра што саседзі па дзяшоўке прадавалі. Ой, з тымі нутрыямі такая історыя непрыятная прыключылась! Ёсь у міня сасед адзін, завут Сірожа. Ён мне і па гаспадарке калі-некалі паможыт, і ў дзярэўню інагда на машыне звозіць. Дык я рышыла яво за тое адблагадарыць. Тут как раз я нутрыі свае пакалола, мех на шубу пайшоў, а зь мяса катлет накруціла. Ну, прыгласіла я на ужын Сірожу і яшчэ аднаво саседа. А Сірожа мне сказаў, як у ваду глядзеў: «Ты ж сматры, Адамаўна, не ўздумай міня толькі сваімі нутрыямі накарміць, бо заб'ю тагда. Я к такім вешчам очэнь чусьцьвіцельны». Ну, шуціт, канешна, а я яму нічэво і не гавару.

От, значыцца, прыходзіт Сірожа і яшчэ тый сасед другі, ну, каторы не Сірожа, а ўтары. Тожа, вобшчым, прылічны мужчына – бугалтарам у ЖЭКе робіт. Селі, выпілі канешна, як людзі, пад'елі, і тут тый сасед, другі, спрашывает: «А із чэво, Адамаўна, тваі катлеты зьдзеланы?Кураціна – не кураціна, не магу разабраць. Ці не з пацукоў тваіх случайна?»А я тут вазьмі і ляпні: «З нутрый, саседушка». Сірожа як услышаў, дык на двор пабяжаў. Можа плоха стала. Чэраз пяць мінут ваврашчаееца з тапаром у руках і гаварыт: «Ну, Адамаўна, січас буду цібя забіваць!» А ў самаво глаза злыя-прызлыя. Я перапужалась – страсьць! Прыйшлось ў падполье лезьці за яшчо адной баклажкай віна, каб мужыкоў спаць палажыць.

– **О**т вы, жэншчына, пра нутрый гаварылі, а я адзін случай успомніла. Ён у нашым раёне быў, аб ім дажа патом у газеце пісалі. Адні людзі паджылыя, бабка зь дзедам, лацірэйны білет купілі. А эта яшчо пры Саюзе была, кагда на лацірэю можна была машыну выіграць. Заполнілі білет, эта самае, адну палавіну паслалі куда нужна, другую спраталі, а нумяра на бумажку перапісалі. На другі дзень дзед памёр, ад сэрца. Бабка яго пахавала. Сядзіт, эта самае, плачыт як палагаецца, а тут ціраж па целівізару перадают. І відзіт яна, што іх зь дзедам білет выйграёт «Волгу». Хваць – а білета няма! І тут бабка ўспамінае, што дзед пратаў білет у кармане свайго выхаднога пінджака, у якім яго і пахаранілі. Што дзелаць? Узяла баба лапату, цапку ды пайшла, як сьцямнела на кладзьбішча білет выкапываць. Ну, адрыла яна, значыцца, магілу, адкрыла гроб – а ў гробі нікаво нету! Баба іспугалась і пабяжала да ўчастковава. Усё па-чэснаму расказала і нумер білета назвала. А ўчастковы справідлівы аказаўся, гаварыт: «За асквірненіе магілы мы цібя, бабка, канешне, аштрафуем, а білет разышчым!» Цераз там какое ўрэмя ў горадзе прыходзіт нейкі мужчына з бабкіным білетам «Волгу» палучаць. А лацірэйшыкі ўжэ прэдупрэждзены былі. Цап-царап яго і ў міліцыю. А там следавацель давай дазнавацца: «Гдзе білет узяў?» А тый гаварыт: «Нічэво не знаю. Купіў у камісіёнке касьцюм, а ў кармане білет ляжыт». Ну, міліцыя начала іскаць, хто касьцюм у камісіёнку здаваў і выйшлі на банду старажэй з кладзьбішча. Тыя нябожчыкаў ноччу адрывалі, разьдзявалі, касьцюмы ў камісіёнку здавалі, а саміх пакойных на мяса рубілі і тым мясам нутрый карміліі! От які ужас!

– **Д**а, праўду тыя людзі гаварат, на крадзеным не пасыцееш. А гдзе вы кажаце жывёце? Ой, дык гэта ж саўсем радам з намі! То-та я думаю, што-та такое пра нутрый я ўжо чула, ці відзіла... А божачкі ж!!! А-а-а-а-а-яй-яй-яй-яй! А людцы мае мілыя! ●

! – *Гл. заданьне да аўдыяваньня тэксту.*

**Заданьні да аўдыяваньня тэксту.**
Праслухайце тэкст. Скончыце сказы, абраўшы правільны варыянт:
1.Чэраз пяць мінут Сірожа вазврашчаецца з тапаром у руках і гаварыт
а) "Ну, Адамаўна, я прышол зьдзелаць Вам прыдлажэніе!"
б) "Ну, Адамаўна, січас буду цібя забіваць!"
в) "Ну, Адамаўна, сматры, какой я тапор купіў!"
2. А эта яшчо пры Саюзе была, кагда на лацірэю можна была
а) Машыну выіграць
б) Флаер на рэйв-паці палучыць
в) Уступіць у КПСС
3. Сторажы нябожчыкаў ноччу адрывалі, разьдзявалі, касьцюмы ў камісіёнку здавалі, а саміх пакойных
а) Здавалі ў крэматоры і попелам нутрый карміліі
б) На мяса рубілі і тым мясам нутрый карміліі
в) Аддавалі нутрыям на гвалтаваньні
Зьверце вашы адказы з друкаваным тэкстам і падлічыце памылкі: 4 памылак і болей – незад., 3 памылкі – зад., 2 памылкі – добра, 1 і меней – выдатна.

## ЮбілЕй юбілеЯў

### Дзікая крыжаванка караля Стаха.

**Шаноўныя чытачы! Прапануем вам гэтую нескладаную крыжаванку, адказаўшы на пытаньні якой (па гарызанталі адпаведна нумарам) вы даведаецеся прозьвішча пісьменьніка (па вэртыкалі ў вызначаным вакенку), чый юбілей так шырака сьвяткавала наша краіна.**

1. **«Самы ўнівэрсальны талент, прыдатны да якога-небудзь XVIII стагодзьдзя». (В.Быкаў)**
2. **«Кароль духоўнасьці». (*Чырвоная Змена*)**
3. **«Он находил общий язык с Машеровым». (*БДГ*)**
4. **«Ён не лізаў капытоў савецкаму ідэалягічнаму чорту». (*Наша Ніва*)**
5. **Адзін з кітоў, на якім стаіць Беларусь. (*Рэспубліка*)**
6. **«Непераўзыйдены эстэт». (*Знамя Юности*)**
7. **«Няўрымсьлівы самаахвярны юнак з адкрытым тварам». (*Культура*)**
8. **«Рыцар свабоды». (*Народная Газета*)**
9. **«Той, на кнігах якога вырасла пакаленьне, што сёньня пластаецца на вуліцах і плошчах». (*Наша Слова*)**
10. **Які зьведаў досыць рэдактарскіх "пажаданьняў" і цэнзурных прадпісаньняў. (*Советская Белоруссия*)**

***(Падказка ад рэдакцыі: на гэты раз гэта НЕ Лукашэнка!)**

## АнОнсы

### СупэрТур «зорак» эстрады па рэгіёнах.

*Г*рандыёзным фіяска абарочваецца чарговая задумка беларускага рок-махінатара Віталя Супрановіча. У зарганізаваны ягонай канторай «СупэрТур» па райцэнтрах Беларусі падарвалася шмат беларускіх музыкаў. Небаракі купіліся на пэрспэктывы бліскучай рэклямы, фанацкіх натоўпаў і сэйшнаў «круцей, чым у самой Зэмфіры». (Што праўда, разам з клерасілам ад ЛЕПРИКОНСОВ па яшчыку актыўна раскручваюць новы бубаль-гум «Супэр», з фанцікамі ад якога нібыта можна нахаляву трапіць на сэйшн.)

Насамрэч усё выглядае значна празаічней. Па прыезьдзе у чарговы райцэнтар нямытыя музыканты выгружаюцца з запыханага ЛАЗіку і пачынаюць раскідваць на пальцах, каму сёньня выступаць. Пасьля гэтага які-небудзь Пастскрыптум бярэ шарманкі і пачынае граць жалобныя мэлёдыі. Усе астатнія з працягнутымі капелюшамі ходзяць вакол, вымагаючы ў гледачоў капейку на хлеб і «Крыжачок». Да прыезду міліцыі рокеры пасьпяваюць разьвесьці сардэчных правінцыялаў на неабходны жыцьцёвы мізэр. Пасьля кароткіх уцёкаў ад ахоўнікаў парадку «ўсебеларускі тур» працягваецца ў новым напрамку...

Калі ж вы хочаце на ўласныя вочы зазырыць, што гэта за Тур, калі ласка.

**СУПЭРТУР**
**«ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ»**

За базар адказваюць **БМА** і **«Линия Звука»**
(Песьні і пляскі ПАЛАЦ, POSTSCRIPTUM, КРАМА, НЕЙРО ДЮБЕЛЬ, КРЫВІ, NRM і інш.)

**8.12** – Ворша, к/т «Перамога»
**9.12** – Магілёў, ПК Піянэраў
**15.12** – Берасьце, ДК Прафсаюзаў
**16.12** – Горадня, ДК Хімікаў
**22.12** – Гомель, Абласны КЦ

### Увага! Конкурс!

**Газэта «Навінкі» распачынае конкурс НА ЛЕПШЫ АРТЫКУЛ сярод сваіх чытачоў.** Умовы конкурсу:
– прыняць удзел у конкурсе можа любая асоба, незалежна ад полу, узросту, нацыянальнасьці ці сэксуальнай арыентацыі;
– матэрыялы прымаюцца **да 23:59 31 сьнежня 2000 году** ў друкаваным (пажадана) ці рукапісным выглядзе на паштовую скрыню рэдакцыі: **п/с 33, 220134 Менск**, ці па факсе **(017)211-09-78**, ці на e-mail: **navinki@user.unibel.by** з пазначкай «KONKURS»;
– тэма артыкулу: культурная падзея (ці зьява) з жыцьця Беларусі ці замежжа;
– аб'ём матэрыялу не павінен перавышаць 2000 знакаў.
Лепшыя артыкулы будуць друкавацца на старонках газэты, а аўтары атрымаюць прапанову далейшага супрацоўніцтва з рэдакцыяй газэты.
Рэдакцыя прастаўляе:
**1-ае** месца – **5л піва + грашовая ўзнагарода**
**2-ое** месца – **5л піва** (ці ў эквіваленце)
**3-яе** месца – **0,5л гарэлкі** (без эквіваленту)
**І яшчэ. Ня трэба нас імітаваць!**

# Маё сьвята ў McDonald's

**Уаў! Цяпер у МакДональдсе можна адзначыць ня толькі Дзень нараджэньня! Е!**

Угодкі Слуцкага паўстаньня ў МакДональдс!

Дэмбель у МакДональдс!

Вясельле ў МакДональдс!

Памінкі ў МакДональдс!

# Падстава, аднака

*Каб штучна падвысіць ажыятаж вакол свайго відэасэрпантыну*

Аднака, добры дзень. Прыйшоў час задацца пытаньнем, для чаго амэрыканцы заказалі «Курск» (сёньня толькі лох ня верыць, што гэта яны нашкодзілі ў акваторыі Барэнцава Мора) і як перастрахавацца ад правакацыяў янкі на будучыню.



Сьляды злачынцаў вядуць з халодных водаў Арктыкі на зялёныя халмы Галівуду. Дзіўныя рэчы тут адбываюцца. Не пасьпявае выйсьці на экраны чарговая галівудзкая кінамуць, як у сьвеце адбываюцца падзеі, якія дзіўным чынам пераклікаюцца зь сюжэтам карціны, што дапамагае кіношнікам выклікаць вакол яе шалёны спажывецкі ажыятаж. Вось, напрыклад, гады з тры таму білборды кінатэатраў ўпрыгожыла афіша камэдыі «Хвост, які віляе сабакам». Так сабе, сярэдняй паршывасьці цегамонь. Ідэя фільму ў наступным. Белы Дом пачынае віртуальную вайну на Балканах, каб адцягнуць увагу грамадзкасьці ад чарговага сэксскандалу: прэзыдэнт зацягнуў у Авальную залю дзесяцігадовую скаўціху. Гатовы паставіць ачко, што без раскруткі фільм прайшоў незаўважаным. Аднак раптам, быццам паводле сцэнару «Хваста», выбухнуў аральны флірт зь Левінскі, а ўсьлед натаўскія «фарманы» падвісьлі ў небе над Бялградам. Орды кінааматараў кінуліся ў касы набываць квіткі на фільм, які быццам прадказаў югаслаўскую кампанію. Вы скажыце: супадзеньне?

Вось вам яшчэ адна жыцьцёвая сага. Прыкладна ў сярэдзіне мінулага лета на латкі відэапіратаў адгрузілі навінку – касэты са стужкай «Людзі гонару». Касэты паступілі ў продаж і ўцюхваліся публіцы без асаблівага посьпеху. У жніўні ж сытуацыя, як паводле волі чараўніка, зьмянілася.

«Людзі гонару» пачалі разьлятацца, як піражкі. Тайна прарыву – у сцэнары карціны. Там брыгада вадалазаў пад камандай Дэ Ніра расьсьледуе прычыны катастрофы нейкай субмарыны, што затанула пры таямнічых абставінах. Уяўляеце, ад Берасьця да Курылаў усе памяшаныя на «Курску», а тут яшчэ такі фільм. Проста ў масьць! Атрымліваецца, што браты-акрабаты Люм'еры арганізуюць тэхнагенныя аварыі і прыродныя катаклізмы, каб лепш запяндзюрыць сваю прадукцыю.

**Залежнасьць посьпеху новага фільму ад рэальных падзеяў, падобных да ягонага сюжэту неаспрэчная. Чаго нам чакаць ад фільму «6-ы дзень»?**

Ведаючы альгарытм злачынстваў і рэпэртуар новых галівудзкіх стужак, не прадстаўляе цяжкасьці прадбачыць новыя крокі злодзеяў. Вось вам апошнія кінахалтуркі з лэйблам «Made in USA». Аналізуючы іхныя банальныя сюжэтныя хады, мы бязь цяжкасьцяў выкрыем пляны кінагангстэраў.

«Пабег з птушкафэрмы». Мова пра змову кур супраць чалавецтва. Чакайце новага дэфіцыту яек.

«Зялёнка». Фільм пра зялёнага ўродца, які выдае сябе за Санта-Клаўса, разьлічваючы тырнуць сьвята Калядаў. Намёк на вылазкі ісламістаў, якія хочуць сарваць надыход хрысьціянскага Міленіюму.

Што ж, будзем і далей сачыць за галівудзкай мурой, каб ня стаць ахвярай кінараскруткі падзелкі пра выбарчую кампанію ў адной з краінаў Трэцяга сьвету ●

**Валеры Лявонцеў**

# Кібэр-Біблія







**Усё болей людзей ува ўсім Інтэрнэце прымаюць у якасьці свайго Правайдэра jesus.com, які тварыў цуды, выганяў вірусы і глюкі, і прыняў мучаніцкі unconnect за ўсіх юзэраў. Але на трэці дзень ён refresh. Прыміце й вы гэты радасны мэсэдж і загружайцеся. Клік.**

1. Спачатку было слова, і слова было два байты, а болей нічога не было.
2. І аддзяліў Бог адзінку ад нуля, і ўбачыў, што гэта добра.
3. І сказаў Бог: хай будуць дадзеныя, і стала так.
4. І сказаў Бог: хай зьбяруцца дадзеныя кожныя ў сваё месца, і стварыў дыскеты, і вінчэстэры, і кампакт-дыскі.
5. І сказаў Бог: хай будуць кампутары, каб было куды пхаць дыскеты, і вінчэстэры, і кампакт-дыскі, і стварыў кампутары, і назваў іх хардам, і аддзяліў хард ад софту.
6. Софту ж яшчэ не было, але Бог хутка выправіўся і стварыў праграмы, вялікія і маленькія, і сказаў ім: пладзіціся і памнажайцеся, і запаўняйце ўсю памяць.
7. Але надакучыла Яму ствараць праграмы самому, і сказаў Бог: створым праграміста на вобраз і падабенства наша, і хай уладарыць над кампутарамі, і над праграмамі, і над дадзенымі. І стварыў Бог праграміста, і пасяліў яго ў сваім ВЦ, каб працаваў у ім. І павёў Ён праграміста да дрэва каталёгаў, і запавёў: з усякага каталёгу можаш запускаць праграмы, толькі з каталёгу Windows не запускай, бо маст дай.
8. І сказаў Бог: нядобра праграмісту быць аднаму, створым яму карыстальніка, адпаведна яму. І ўзяў Ён у праграміста костку, у якой не было мозгу, і стварыў карыстальніка, і прывёў яго да праграміста; і назваў праграміст яго юзэрам. І сядзелі яны абодва пад голым ДОСам, і не саромеліся.
9. Біл быў хітрэйшы за ўсіх зьвяроў палявых. І сказаў Біл юзэру: ці сапраўды сказаў Бог: не запускайце ніякага софту? І сказаў юзэр: усялякі софт мы можам запускаць, і толькі з каталёгу Windows ня можам, бо маст дай. І сказаў Біл юзэру: давайце спрачацца пра смак вустрыцаў з тымі, хто іх еў! У дзень, калі запусьціце Windows, будзеце як Богі, бо адным клікам мышкі створыце што заўгодна. І ўбачыў юзэр, што вінды прыемныя для вока і прыцягальныя, бо робяць непатрэбнымі веды, і ўсталяваў іх на свой кампутар; а потым сказаў праграмісту, што гэта крута, і той таксама ўсталяваў.

0A. І пайшоў праграміст шукаць сьвежыя драйвэры, і ўсклікнуў Бог да праграміста, і сказаў яму: дзе ты? Праграміст сказаў: шукаю сьвежыя драйвэры, бо няма іх пад голым ДОСам. І сказаў Бог: хто табе сказаў пра драйвэры? Ці не запускаў ты вінды? Праграміст сказаў: юзэр, якога ты мне даў, сказаў, што з гэтага часу хоча праграмы толькі пад вінды, я іх паставіў. І сказаў Бог юзэру: што гэта ты зрабіў? Юзэр сказаў: Біл спакусіў мяне.

0B. І сказаў Бог Білу: за тое, што ты зрабіў, пракляты ты перад усімі скатамі і ўсімі зьвярамі палявымі, і варожасьць пакладу паміж табой і праграмістам: ён будзе лаяць цябе нядобрымі словамі, а ты будзеш прадаваць яму вінды.

0C. Юзэру сказаў: памножу жалобу тваю, і спустошу кашалёк твой, і будзеш карыстацца крывымі праграмамі, і ня здолееш пражыць без праграміста, і ён будзе панаваць над табой.

0D. Праграмісту ж сказаў: за тое, што паслухаў юзэра, праклятыя кампутары для цябе; глюкі і вірусы ўчыняць яны табе; з жалобай будзеш вычышчаць іх у дні працы тваёй; у поце твару свайго будзеш наладжваць код свой.

0E. І выслаў Бог іх са свайго ВЦ, і паставіў пароль на ўваход ●

## Падпісная лятарэя НАВІНКІ

«ПРЫЙДУЦЬ! ЦІ НЯ ПРЫЙДУЦЬ?..»



Умовы лятарэі (падпіскі):

| | | |
|---|---|---|
| на 1 месяц (2 нумары) | – 176 | руб. |
| на 3 месяцы (6 нумароў) | – 528 | руб. |

Падпіску можна аформіць у любым аддзяленьні сувязі да 10 чысла кожнага месяца.

Наш падпісны індэкс 63439

## УВАГА: АНКЕТА!

Шаноўныя чытачы! Запоўніце, калі ласка, гэтую анкету (пажадана, без пустасьцёбства) і дашліце **да 10 сьнежня 2000** на адрас рэдакцыі: **220134, Менск, п/с 33.** Сьпяшайцеся!

**I. Пры якіх абставінах вы пазнаёміліся з нашай газэтай?**

1 – купіў у шапіку «Белсаюздруку» ☐
2 – купіў на мітынгу/дэманстрацыі ☐
3 – раздавалі на тусоўцы/канцэрце/сэмінары ☐
4 – далі пачытаць знаёмыя ☐
5 – іншае: ____

**II. Як даўно вы чытаеце нашу газэту?**

1 – менш за месяц ☐
2 – ад 1 да 3 месяцаў ☐
3 – ад 3 да 6 месяцаў ☐
4 – ад 6 месяцаў да 1 году ☐
5 – больш за 1 год ☐

**III. Якая рубрыка вам падабаецца больш за ўсё?**

1 – перадавіца (1 стар.) ☐
2 – палітыка (2-3 стар.) ☐
3 – тэма нумару (4-5 стар.) ☐
4 – культура (6-7 стар.) ☐
5 – коміксы ☐
6 – іншае: ____

**IV. Які апошні нумар вы чыталі?** ☐

**А. Які матэрыял вам спадабаўся больш за ўсё?** ____

**Б. Які матэрыял вы б паставілі на другое месца?** ____

**В. Які матэрыял вам падаўся самым нецікавым?** ____

**V. Якая тэматыка вам больш даспадобы?** ____

**VI. Чаго, на ваш погляд, не хапае нашай газэце?**

1 – усяго хапае ☐
2 – гумару ☐
3 – сур'ёзнасьці ☐
4 – вастрыні ☐
5 – інфармацыйнасьці ☐
6 – іншае: ____

**VII. Як часта вы хацелі б атрымліваць нашу газэту?**

1 – раз на месяц ☐
2 – 2 разы на месяц ☐
3 – раз на тыдзень ☐

**VIII. Якія зьмены вы б хацелі бачыць у нашай газэце ў новым годзе?** ____

**IX. Вашыя зьвесткі пра сябе:**

1. Колькі вам год? ☐
2. Ваш пол? М ☐ Ж ☐
3. Ваша адукацыя? ____
4. Ваш род заняткаў? ____

**ДЗЯКУЙ!**

**Першыя 10 чалавек атрымаюць прызы ад Рэдакцыі!**

# З ДУМКАЙ ПРА БУДУЧЫНЮ!

23 лістапада блёк маладзёвых брацтваў і сястрынстваў праваслаўнага дыяпазону на 4-ай паласе *Советской Белоруссии* побач з артыкулам аб праблемах трыкатажнай фірмы "Эмма" апублікаваў зварот да юнацтва краіны. Зь нетраў грудзей маладых артадоксаў вырваўся стогн праўды аб крызысным становішчы, у якое трапіла наша моладзь, імя якому – распуста. Нажаль стогн маладых вернікаў застаўся голасам праведніка ў пустэльні. Юнацтва і далей займаецца блудам. Толькі наша рэдакцыя, заўсёды чуйная да любых духоўных ініцыятываў, кансалідавана вырашыла ня даць голасу розуму і сэрца згінуць ў прорве грамадзкай абыякавасьці. Дапамагчы любымі сродкамі ў дыстрыб'юцыі праўды – вось якой была наша першая рэакцыя на прычытаны матэрыял. Аднак паколькі сацыялёгія даказала, што тынэйджэр лепш спажывае візуальную інфармацыю, мы вырашылі перакласьці тэкст звароту на мову коміксаў, каб нават апошні дэбіл, чые мазгі заплылі ад д'ябльскай музыкі і тэледзясяткі МТВ праёекфішку нашых аднадумцаў і пакаяўся.

Хотелось бы поведать вам об обстоятельствах, которые не могут оставить безучастными всех тех, кто искренне верен своему Отечеству. Минск отличают от многих других городов его архитектурная гармония, живописный зеленый ландшафт, его чистота. И многие из вас прилагают немало сил и энергии, заботясь о его **БЛАГОУКРАШЕНИИ.** Тем более явственно проступает то, что безобразит и бесчинно уродует его лицо.



Речь идет о внешнем облике некоторой категории горожан, который **ИСКАЖАЕТ ТО БЛАГОСТНОЕ ВПЕЧАТЛЕНИЕ** о нашей столице, складывающееся у гостей и ее постоянных жителей. Проведем небольшой экскурс. Минувшим летом город заполнили молодые женщины в буквальном смысле слова в том виде, в каком человек выглядит сразу после сна, в виде, в котором людям с нормальным воспитанием **СТЫДНО** показываться на глаза даже родителям.





То, что происходило, можно назвать безнравственной **РЕКЛАМОЙ НОЧНЫХ СОРОЧЕК И БЮСТГАЛЬТЕРОВ, НАБЕДРЕННЫХ ПОВЯЗОК.(...)** Издавна в православном мире женщина являлась символом целомудрия, стыдливости, нравственной чистоты. А что происходит сейчас? Попирается все то, чем она была возвеличена: скромность, духовность, милосердие, кротость.




Мы, молодые сыновья и дочери нашего Отечества, не можем безучастно относиться к этому. Величайшее нравственное богатство, накопленное в нашем Отечестве веками, растеряно. Бедствие приняло массовый характер. К сожалению, голубой экран (мы имеем в виду некоторые московские программы) в этом болезненном процессе играет крайне негативную роль. Часто можно видеть передачи низкого морального уровня, **МОЛОДЕЖИ НАВЯЗЫВАЮТСЯ ПОСТЫДНЫЕ СТЕРЕОТИПЫ ПОВЕДЕНИЯ.** Демонстрируется немало кинофильмов, в которых культивируются ненависть, насилие, злоба. Мы протестуем против этого.




Мы подробно останавливаемся на данном состоянии нынешнего общества, потому что это один из серьезных факторов разложения. Поэтому, выполняя свою ответственную духовную миссию, мы призваны заботиться о нравственном здоровье людей. Ибо попрание морали чревато серьезными последствиями.(...) Мы хотим громко сказать: «Не надо противостоять **ХРИСТИАНСКОМУ ГЕНОФОНДУ, НАРАБОТАННОМУ СТОЛЕТИЯМИ ТРУДАМИ НАШИХ ПРЕДКОВ,** наследниками являетесь».




В Минске, да и в других городах республики появились так называемые **КЛУБЫ, ДЕЙСТВУЮЩИЕ СОВЕРШЕННО БЕЗНАКАЗАННО,** их функции - растлевать молодую, морально незащищенную, неокрепшую личность, доводить ее до животного образа. Братья и сестры, вспомните о вашем великом, святом предназначении, объявите бойкот этим рассадникам разврата.




Хотелось бы также поведать и о сокровенной стороне нашего бытия - о музыке, призванной создавать светлые образы, эстетически обогащать и осмысливать жизнь. Однако некоторые наши сверстники находятся в плену иной «музыкальной» стихии. Они предпочитают **СКРЕЖЕЩУЩИЕ ЗВУКИ, ДРЕБЕЗЖАНИЕ МЕТАЛЛА,** ничего общего с музыкой не имеющие, травмирующие психику, разрушающие здоровье людей.

Мы не можем не разделить тревогу большинства соотечественников - нецензурная лексика для многих наших сверстников стала нормой общения. Растут уголовные преступления. Активные действующие лица криминальных процессов - молодежь.



Данное обращение - не исследование, не обзор нравственного состояния общества. В нем усматривается только один из наиболее зримых пластов духовного излома, один из наиболее явственных аспектов **«НРАВСТВЕННОГО ЧЕРНОБЫЛЯ».** Но это может быть основой, поводом для размышления, для серьезного разговора, поводом для принятия действенных мер.



Необходимо уяснить себе, что вера и сознание своей колоссальной ответственности перед Творцом - **НЕ СКАЗКИ, НЕ ФАНТАСТИКА, НЕ ПЛОД ВООБРАЖЕНИЯ** - это реальность. И Он существует вне зависимости от того, верят в Него или не верят. Нельзя допустить, чтобы нация спивалась и разлагалась. С глубочайшей христианской любовью к нашим соотечественникам, с совершенным уважением и надеждой на понимание серьезности и актуальности данной проблемы.

**Zаконъ Божін**

Зборнік замежнай фантастыкі

*Праваслаўнае брацтва рэдакцыі газэты «Навінкі» (і яшчэ 7 подпісаў)*